**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 08 (881) 23 лютага 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

**Свята абуджэння мядзведзя – Камаедзіца – у мястэчку Лынтупы.**
*Працяг на стар. 4.*



*Фота Ул. Скрабатуна.*



ISSN 2077-8023



## Полацкі раён

# Не справіўся з задачамі

■ Чэслаў Якубовіч.

**Яшчэ ў мінулым годзе работнікі аднаго з буйнейшых айчынных заводаў, Навапалацкага НПЗ “Нафтан” звярнуліся з адкрытым лістом да кіраўніцтва Беларусі разабрацца ў прычынах няпростага фінансавага становішча іх калектыву.**

Людзі не маглі зразумець, чаму ў іх справы ідуць значна горш, чым у іх калег з Мазырскага НПЗ. Калектыў непакоіла таксама, чаму кіруючых пасад пазбавілі многіх карэнных навапалачан, іх змянілі прыезджыя, а сярод топ-менеджараў апынуліся карупцыянеры. Сапраўды, цяжкасці ў гіганта нафтахіміі ўзніклі сур’ёзныя, але выкліканы яны былі зніжэннем сусветных цэн на нафту і адпаведна на гатовыя нафтапрадукты завода. Па гэтай прычыне не ўдалося на прадпрыемстве завяршыць намечаную мадэрнізацыю, якая працягваецца бесперапынна з пачатку новага стагоддзя. Новы глава прэзідэнцкай Адміністрацыі Наталля Качанава, якая была тут раней старшынёй гарвыканкама, спынілася на гэтай праблеме падчас нядаўняй рабочай паездкі. На сустрэчы з дырэкцыяй завода яна паведаміла аб адстаўцы з займаемай пасады генеральнага дырэктара “Нафтана” Уладзіміра Траццякова. Ён кіраваў вялікім заводам на працягу амаль шасці гадоў, а пачынаў сваю кар’еру выпускнік Маскоўскага інстытута нафтавай і газавай прамысловасці імя Губкіна калісьці аператарам адной з установак НПЗ у Мазыры. Цікава, што перад гэтай адстаўкай “Нафтан” пачаў перакачку сваёй саляркі па магістральным нафтаправодзе на нафтабазу ў пасёлку Круляўшчызна Докшыцкага раёна.

## Глыбоцкі раён

# На розных палюсах

■ Станіслаў Раманчук.

**Эфектыўнасць гаспадарання на вёсцы залежыць ад многіх фактараў, а вось большую частку года дабрабыт гаспадарак вызначае стан спраў на фермах і свінакомплексах.**

За апошнія 2 гады на Віцебшчыне ў галіне жывёлагадоўлі адбыліся зрухі да лепшага, што дазволіла вобласці пакінуць апошняе месца сярод рэгіёнаў Беларусі. У Прыдзвінні пераўзышоў сярэднеабласны ўзровень надояў Глыбоцкі раён, дзе летась у сярэднім на кожную карову атрымалі па 4127 літраў малака. Аб гэтым гаварылася на прайшоўшай днямі сустрэчы з жывёлаводамі раёна. Нявыкарыстаных рэзерваў у гэтай сферы шмат, бо звыш паўсотні гаспадарак вобласці ўжо маюць надоі на фермах звыш 5 тысяч кг, а ў перадавых сельгас-прадпрыемствах яны па 7500 літраў і болей. Таксама і на Глыбоччыне паказчыкі дзейнасці адчувальна адрозніваюцца нават у некалькі разоў, калі лічыць па надоях на фермах ААТ “Сельцы”. Губляюць на вёсцы вялікія грошы ад невысокай таварнасці прадукцыі, здачы малака неналежнай якасці, нізкіх сутачных прываг у вазе. Праўда, і ў раёне ёсць на каго раўняцца, бо на ферме “Удзела” адразу некалькі аператараў машыннага даення надаілі звыш 7 тысяч кг. Дзякуючы такім людзям і захаванню тэхналогіі нават зімой на Глыбоцкі МКК кожныя суткі паступае на перапрацоўку да 120 тон малочнай сыравіны. На прайшоўшай сустрэчы звыш 60 лепшым работнікам галіны былі ўручаны падзякі і грашовыя прэміі. Таксама кіраўніцтва раёна паабяцала, што тыя работнікі ферм, якія па выніках 2017 года выйдуць на рубеж надояў 8 тысяч кг малака і болей, атрымаюць важкія каштоўныя падарункі.

## Пастаўскі раён

# Парушыў клятву Гіпакрата

■ Кастусь Александровіч

**У многіх кутках краіны з-за няпростай эканамічнай сітуацыі стала адзначацца павелічэнне колькасці карупцыйных злачынстваў.**

Не стаў выключэннем і Пастаўскі раён, дзе толькі летась было ўзбуджана 7 крымінальных спраў за атрыманне хабару, ажыццяўленне крадзяжоў шляхам злоўжыванняў службовымі паўнамоцтвамі і перавышэнне ўлады. Аднаго кіруючага работніка за карупцыю асудзілі, іншыя чакаюць пакарання за падобную дзейнасць. У гэтым годзе прага лёгкай нажывы падвяла днямі аднога з урачоў цэнтральнай райбальніцы. У той дзень ён прымаў у сваім кабінеце хворых пацыентаў і ўзяў ад мясцовай жыхаркі грошы за выпіску ліпавага бальнічнага лістка непрацаздольнасці, бо жанчына была здаровая. Неўзабаве ў пакой увайшла група мужчын у цывільным, а гэта былі супрацоўнікі абласной міліцыі і Пастаўскага РАУС. Урача затрымалі з яўнымі доказамі хабару, супраць медработніка распачалі крымінальную справу. На гэты перыяд спецыяліст апынуўся за кратамі і пачаў даваць паказанні ў камеры ізалятара часовага ўтрымання. Мяркуючы па ўсім, медыцынскай дзейнасцю ён у далейшым, калі і зоймецца, то ўжо ў месцах пазбаўлення волі. Як высветлілася падчас следства, гэты ўрач даўно парушыў клятву Гіпакрата і неаднаразова браў узнагароджанне ад сваіх пацыентаў за падобныя незаконныя паслугі. З цягам часу чуткі пра гэта сталі вядомы людзям у пагонах і яны спынілі супрацьпраўную дзейнасць медыка.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 23.02.17 | | | | Пятніца 24.02.17 | | | | Субота 25.02.17 | | | | Нядзеля 26.02.17 | | | | Пан.27.02. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | 0 | +1 | +3 | 0 | -2 | -2 | -1 | -4 | -5 | -4 | 0 | -3 | -6 | -2 | +2 | +3 | 0 | +1 | +3 |
| Ціск | 726 | 724 | 724 | 729 | 729 | 723 | 726 | 733 | 737 | 739 | 739 | 740 | 741 | 737 | 731 | 730 | 732 | 738 | 742 |
| Вецер м/сек | 5 З | 7 Пд-З | 6 З | 7 З | 2 Пд | 6 Пн-У | 5 Пн | 4 З | 5 З | 6 З | 6 З | 5 З | 3 Пд | 6 Пд-У | 6 Пд-З | 8 З | 9 З | 9 Пн-З | 6 З |
| Вільготнасць | 90 | 89 | 83 | 81 | 86 | 99 | 84 | 83 | 90 | 91 | 78 | 88 | 96 | 97 | 92 | 93 | 83 | 82 | 68 |

# Аб самым надзёным

## АДКРЫЦЦЁ БЯЗВІЗАВЫХ ПАЕЗДАК НА 5 СУТАК – ТОЛЬКІ ПЕРШЫ ПРАВІЛЬНЫ КРОК У АДКРЫЦЦІ БЕЛАРУСІ СВЕТУ




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Новы парадак уезду да нас, дарэчы, не прадугледжвае магчымасць прыляцець авіярэйсамі з Расіі, а вось з Лондана, Парыжа, Рыма, Вашынгтона – можна і трэба. Большасць спецыялістаў упэўнены, што з цягам часу павялічыцца прыток замежных гасцей і турыстаў у Беларусь.**

Нават у такой аморфнай і самай саветызаванай постсавецкай рэспубліцы, як наша, час ад часу здараюцца дзіўныя рэчы. Не ведаю, як каму, а мне асабіста прыемна было пачуць у навагоднім віншаванні А. Лукашэнкі беларускаму народу, што “наши города приобретают настоящий европейский облик”. Гэта было сказана, верагодна, з падтэкстам, што вось там ідэал, да якога трэба наблізіцца, да чаго імкнуцца. Сапраўды, цяпер ва ўзаемадносінах з бліжэйшымі нашымі суседзямі з ЕС, з Украінай зараз няма такіх праблем, якія другі год запар складваюцца з нібыта галоўным саюзнікам Расіяй.

Пасля рашэння беларускіх улад увесці бязвізавы рэжым уезду ў нашу краіну на 5 сутак для грамадзян 80 дзяржаў свету яшчэ большая штучная мяжа паўстае паміж намі і Крамлём. Маскоўскім правіцелям такі крок “малодшага брата”, напэўна, яшчэ болей не спадабаецца, а нам трэба было так зрабіць даўно. Ужо ўсе дзяржавы на прасторах СНД адкрыліся і яшчэ болей, чым цяпер беларусы, цывілізаванаму Захаду. Менавіта з заходнімі дзяржавамі не знаходзіць агульнай мовы толькі адна Расія, якая з імі канфліктуе, пагражае сваёй ваеннай сілай і атрымоўвае пад дых санкцыі па поўнай праграме. Рускіх спартсменаў за масавую дзяржпраграму ашуканства з допінгам увогуле могуць адхіліць ад удзелу ў міжнародных спаборніцтвах і пазбавіць суседзяў права праводзіць міжнародныя турніры.

Дарэчы, украінцы з грузінамі адмянілі візы для грамадзян развітых краін свету больш 10 гадоў назад. На падобныя крокі пайшлі потым і ўсе нашы партнёры па ЕАЭС, апошнім – Казахстан. У іх спісы такіх дзяржаў розныя, але ва ўсіх ёсць Еўрасаюз і ЗША і няма такіх абмежаванняў, як у нас: уезд толькі на 5 дзён. Пры ўсіх відавочных недахопах такі крок кіраўніцтва нашай краіны – правільны, бо ён адкрывае Беларусь для цывілізацыі. А вось літоўцы адрэагавалі першымі, яны падтрымалі такі наш крок – самалёт, але справядліва заўважылі, што прыйшла пара вырашыць пытанне бязвізавых паездак для грамадзян прыгранічча. Беларусь з Літвой і Польшчай пра гэта дамовілася даўно, яшчэ ў 2010 годзе, але нашы ўлады не хочуць адкрываць шлагбаўмы па розных надуманых прычынах.

Спрошчаны механізм узаемных паездак да гэтага часу дзейнічаў толькі на нашых граніцах з Латвіяй. Зараз, што цікава, нашы бязвізавыя госці і турысты не змогуць з Беларусі паехаць у Расію. Добра, што Беларусь перад гэтым з 1 студзеня знізіла адчувальна кошт уязных платных віз для еўрапейцаў. У той самы час, калі наша краіна стала адкрывацца свету, суседняя Расія, па звестках “КоммерсантЪа”, прыгразіла зменшыць нам на 12 % экспарт нафты да 4 млн. тон у першым квартале. У далейшым, не выключана, што пасля такога адкрыцця нашай краіны замежжу рускія яшчэ болей могуць пачаць знаходзіць у беларускім малацэ і мясе новых “паразітаў”.

З іншага боку беларускі лідар ужо адказаў найперш адэптам “русского мира «мы никому не позволим унижать наш народ и государство… если кто-то этого не понимает, тогда нам непросто будет с ними не то что строить отношения, но и разговаривать». Новы парадак уезду да нас, дарэчы, не прадугледжвае магчымасць прыляцець авіярэйсамі з Расіі, а вось з Лондана, Парыжа, Рыма, Вашынгтона – можна і трэба. Большасць спецыялістаў упэўнены, што з цягам часу павялічыцца прыток замежных гасцей і турыстаў у Беларусь. Магчыма і далейшая лібералізацыя ўязнога ўезду ў Беларусь і ўвядзенне адпаведных мер і на наземных пунктах пропуску на граніцах, а не толькі ў аэрапорце ў Мінску.

На Захадзе рэакцыя на рашэнне беларускіх улад па спрашчэнні візавага рэжыму была ў асноўным станоўчая. Яе расцанілі як сігнал да гатоўнасці будаваць больш ліберальныя адносіны найперш з Еўрасаюзам, а пакуль гасцям з ЕС дастаткова будзе мець пашпарт, медыцынскую страхоўку на суму не меней 10 тысяч еўра, крыху валюты альбо беларускіх рублёў і можна смела прылятаць у Мінск. Між тым Латвія такім чынам запрашала да сябе беларусаў у Рыгу на мінулыя калядныя і навагоднія святы на самалётах Air Baltic з адпачынкам у рыжскіх гатэлях. Як стала вядома, новы бязвізавы рэжым у нашай краіне пачаў дзейнічаць з 12 лютага. Гэта не першы крок беларускага кіраўніцтва ў падобным накірунку.

Яшчэ летась восенню Беларусь дазволіла бязвізавы ўезд з боку Аўгустоўскага канала на нашу тэрыторыю з Польшчы і Літвы з турыстычнымі мэтамі і наведваннем Гродна. Раней было дазволена свабодна наведваць на трое сутак Белавежскую пушчу з суседняй Польшчы. Прыемна, што ў нас пачалася актыўна праца па стварэнні адпаведнай інфраструктуры для прыёму замежных гасцей і прывабнага аблічча Беларусі. У выніку можна разлічваць ужо ў бліжэйшай перспектыве на паступовае павелічэнне не толькі турыстаў, але і найперш дзелавых людзей, актывізацыю бізнес-кантактаў і павелічэнне інвестыцый. Калі гэты наш крок стане паспяховым, то неўзабаве замежныя госці зомгуць прыязджаць да нас і на цягніках, аўтобусах і на асабістым транспарце.

## Дзень за днём

**Знешні дзярждоўг Беларусі за год вырас яшчэ на 9,6 % да 13,6 мільярда долараў. А. Лукашэнка вырашыў узмацніць уладу кіраўнікоў на месцах. Па росту цэн летась на 10,6 % Беларусь летась выйшла на 3-е месца ў былым СССР. У Беларусі да выпрабаванняў гатовы новыя ракетныя сістэмы "Паланез" з дальнасцю стральбы 300 кіламетраў. Для асобных грамадзян могуць перагледзець мінімальны страхавы стаж. Міністэрства абароны правяла комплексную праверку боегатоўнасці 30 воінскіх часцей. З з-запасу на зборы прызвалі каля 3-х тысяч салдат і афіцэраў. Жыццёвы рубеж 100 гадоў пераадолелі 415 беларусаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** Некалькі арабскіх СМІ паведамілі, што ў бальніцу патрапіў у цяжкім стане з ішэмічным інсультам прэзідэнт Б. Асад, на сумленні якога забойства свайго народа.

**Англія.** Падчас візіту ў ЗША прэм'ер-міністр Т. Мэй заклікала амерыканцаў наладзіць адносіны з Расіяй У. Пуціна, аднак усё ж апасацца пры гэтым цынізму рускіх эліт.

**Украіна.** Пасля масіраваных артабстрэлаў зноў рэзка абвастрылася абстаноўка ў раёне Данецка, сталі гінуць людзі і ваенныя, раненне атрымаў адзін з лідараў баевікоў "Гіві".

**Германія.** Фракцыя СДПГ у Бундэстагу вылучыла сапернікам А. Меркель на пасаду канцлера папулярнага сярод немцаў палітыка, экс-старшыню Еўрапарламента М. Шульца.

**Расія.** Экс-прэзідэнт СССР М. Гарбачоў папярэдзіў, што з-за рэзкага пагаршэння адносін НАТО і РФ свет зноў апынуўся перад пагрозай ядзернай вайны, растуць ваенныя расходы.

**ЗША.** Пасля заяў Д. Трампа аб нарошчванні ядзернага патэнцыялу вучоныя краіны заявілі, што свет стаў бліжэй да глабальнай катастрофы, чым у часы халоднай вайны.

**Люксембург.** Еўрапейскі суд пастанавіў, што дзяржавы ЕС могуць адмаўляць у прадастаўленні прытулку тым, хто мае дачыненне да дзейнасці тэрарыстычных груп.

**Украіна.** Услед за двума сваймі калегамі даў паказанні ў Генпракуратуры былы дэпутат Дзярждумы РФ ад КПРФ Д. Вароненкаў і пацвердзіў дзяржздраду краіне В. Януковіча.

**Расія.** Куратар баевікоў "ДНР" А. Жучкоўскі прыгразіў адправіць на пакой "обнаглевшего вконец" дзядулю А. Лукашэнка, а таксама замуціць "русский майдан" у Мінску.

**Румынія.** Амаль 250 тысяч чалавек выйшлі на акцыі пратэсту супраць рашэння ўрада вызваліць ад крымінальнай адказнасці чыноўнікаў, замешаных у карупцыі.

**Азербайджан.** Арышт рускага блогера ў Беларусі, як заявіў дырэктар Праваабарончага цэнтра Э. Зейналаў, і выдача яго Баку можа мець для А. Лукашэнкі сур'ёзныя наступствы.

**Расія.** Віцэ-прэм'ер урада РФ А. Дварковіч заявіў, што доўг Беларусі за газ дасягнуў 0,5 млрд. долараў і запатрабаваў аплаты яго паставак у поўным аб'ёме.

**Літва.** МЗС краіны заявіла, што літоўцы не маюць ні да суседзяў тэрытарыяльных прэтэнзій, ні да статусу Калінінградскай вобласці, але не прызнаюць захоп Расіяй Крыма.

**Ганконг.** Мегаполіс прызналі самым папулярным горадам свету для замежных турыстаў, за год яго наведалі амаль 27 млн. чалавек, вельмі шмат сюды ездзяць кітайцы і англічане.

**Польшча.** Каманда біятланістаў зборнай Украіны ў змешанай эстафеце на чэмпіянаце Еўропы падчас выканання гімна Расіі пакінула цырымонію ўзнагароджання.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** З-за зацяжной рэцэсіі, як заявіў эканаміст А. Балточка, лозунг прэзідэнцкіх выбараў 1994 года – адвесці народ ад прорвы можа зноў стаць актуальным у Беларусі.

**Гомель.** Як і ў галодныя 90-я гады, на прадпрыемстве "Гомельагракамплект" з амаль 700 працуючымі ўвялі продаж прадуктаў у крэдыт праз свой магазін у лік зарплаты.

**Мінск.** Палітолаг А. Класкоўскі пацвердзіў, што ўвядзенне РФ пагранічнай зоны на граніцы з Беларуссю сведчыць ад росце татальнага недаверу Крамля да нас, гэта дрэнна.

**Іўе.** Больш 60 жыхароў раённага цэнтра, якія ўсё жыццё зараблялі ад даходаў ад парнікоў на агародах, напісалі пісьмо А. Лукашэнку з просьбай вызваліць іх ад выплат на дармаедаў.

**Брэст.** Вечарам у мікараёне Вулька 14-гадовы школьнік з пнеўматычнага пісталета абстраляў рэйсавы аўтобус МАЗ 12-га маршрута, міліцыя знайшла мярзотніка.

**Мінск.** Пуцін не пойдзе, як заявіў расійскі паліттэхнолаг С. Бялкоўскі, на прамую агрэсію супраць Беларусі, а стаць вам дзяржавай можна толькі шляхам выхаду з расійскай арбіты.

**Дзяржынск.** На ўзбраенне беларускай арміі паступілі новыя рэактыўныя снарады, выпушчаныя на мясцовым заводзе точнай механікі для ракетных сістэм залпавага агню

**Магілёў.** Адзін з былых кіраўнікоў абласной дзіцячай бальніцы 50-гадовы В. Малашка толькі 1,5 месяца прапрацаваў міністрам працы і ўзначаліў Міністэрства аховы здароўя.

**Бабруйск.** Экс-главу гарвыканкама А. Каваленка абвінавацілі ў атрыманні хабару ў суме звыш 20 тысяч долараў, арыштавалі і экс-галоўнага бухгалтара мясакамбіната з Магілёва.

**Мінск.** Хоць мы ўбачым болей вышыванак на членах БРСМ, як папярэдзіў палітолаг А. Класкоўскі, але мяккая беларусізацыя і надалей будзе кароткай з савецкім менталітэтам.

**Гомель.** Услед за жыхаром Мазыра суд пакараў за знявагу беларускай мовы былога міліцыянера штрафам у суме 230 рублёў, ён параўнаў мову з трупам, які трэба закапаць.

**Мінск.** Калі ў 2011 годзе ў Пенсійным фондзе быў 5-месячны запас сродкаў на выплаты, як прызнаў намеснік міністра працы В.Кавалькоў, то цяпер трэба падтрымка бюджэту.

**Слуцк.** Глава Адміністрацыі прэзідэнта Н. Качанава абвінаваціла асобныя СМІ, што яны раздзімаюць спрэчныя пытанні паміж Беларуссю і РФ і напружваюць сітуацыю.

**Магілёў.** Пры атрыманні хабару ў памеры 2 тысяч долараў КДБ затрымаў начальніка мясцовага ўпраўлення дэпартамента МНС па наглядзе за бяспекай работ у прамысловасці.

**Мінск.** Пісьменнік В. Марціновіч заявіў, што 10 % працаздольных (450 тысяч) сядзяць без працы, а іх прызналі дармаедамі таму, што не было рэформ пры застыўшым часе.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## Прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў агучыў комплекс рашэнняў для росту сярэдняй зарплаты да $ 500



■ Кар. БЕЛТА

**Прэм'ер-міністрАндрэй Кабякоў агучыў комплекс рашэнняў для росту сярэдняй зарплаты да $ 500 да канца 2017 года.**

Пра гэта ён заявіў на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў, дзе абмяркоўваліся вынікі сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі ў студзені 2017 года і меры па выхадзе на станоўчую дынаміку росту эканомікі ў I квартале, перадае карэспандэнт БЕЛТА. «Пры выкананні задачы па выхадзе да канца года на Br1 тыс. сярэдняй заработнай платы будзем зыходзіць з таго, што грошы павінны быць зароблены. Рост даходаў толькі ва ўвязцы з ростам прадукцыйнасці працы. Раздачы незаробленых грошай не будзе», - падкрэсліў Андрэй Кабякоў. Кіраўнік урада акцэнтаваў увагу, што рашэнне гэтай задачы - праз стварэнне новых працоўных месцаў, новых прадпрыемстваў, развіццё прадпрымальніцтва і ініцыятывы, нарошчванне экспарту і скарачэнне выдаткаў. «У бюджэтнай сферы рост зарплаты - за кошт мерапрыемстваў па аптымізацыі і росце пазабюджэтных даходаў», - адзначыў прэм'ер-міністр. «Што тычыцца вынікаў I квартала, мы не маем права не забяспечыць устаноўленага прагнозам задання. Вынік павінен быць мінімум на ўзроўні 2016 года. Прашу на гэта наладзіць усе службы. За вынік попыт будзе жорсткім. Усе мы - людзі адказныя, высокапрафесійныя і разумеем, што калі не выйдзем на той мінімальны прагноз, які самі ж і ўсталявалі, то адкажа кожны персанальна. Дынаміка ў лютым і сакавіку павінна быць заўважнай «, - рэзюмаваў Андрэй Кабякоў.

## Папулярныя тарыфы life:) падаражэюць ад 1 сакавіка

Мабільны аператар life:) паведаміў пра змены коштаў на некаторыя паслугі. Ад 1 сакавіка 2017 года папулярныя пакеты стануць даражэй, а роўмінг — танней.

Вырастуць рэгулярныя плацяжы на масавых тарыфах аператара. Тарыф «XS» будзе каштаваць 3,5 рубля ў месяц (+16,6%), «S» — 7 рублёў (+7,6%), «M» — 8,5 рубля (+10,3%), «L» — 12,5 рубля (+7,7%), «XL» — 14,5 рубля (+11,5%).

Падаражэюць і буйныя пакеты з трафікам LTE: плата за паслугу «4G 20 ГБ» вырасце да 22,9 рубля (+15%), «4G 50 ГБ» — 36,9 рубля (+23,4%). Усе новыя цэны апублікаваныя на сайце аператара.

Без змен застануцца рэгулярныя плацяжы на тарыфах «XXL», «Вольны life:)», «Наш life:)», «Супер life:)», а таксама на тарыфных планах лінейкі Smart і для шэрагу іншых прапаноў. Патаннее роўмінг для абанентаў, якія знаходзяцца ў Вялікабрытаніі, Іспаніі, Італіі, Кітаі, ЗША і Туркменістане.

«Змена кошту на паслугі мабільнай сувязі абумоўлена неабходнасцю далейшага развіцця сеткі, запуску новых сэрвісаў і павышэння якасці паслуг», — патлумачыў аператар.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Лёзна.** Уздоўж беларускай граніцы ФСБ па Смаленскай вобласці па загадзе з Масквы ўстанавіла пагранічную зону з адпаведнымі знакамі месцаў уезду і праходу праз яе.

**Віцебск.** Начальнік упраўлення адукацыі аблвыканкама Д. Хома пацвердзіў, што летам у вобласці закрыюць і рэарганізуюць 45 малакамплектных школ з 1405 вучнямі.

**Наваполацк.** Нават у выпадку вырашэння газавага канфлікту, як папярэдзіла эксперт В. Касцюгова, забяспечыць поўнасцю загрузку "Нафтана" і Мазырскага НПЗ зноў не выйдзе.

**Бешанковічы.** РУП "Віцебскэнерга" пачаў пошук інвестара для будаўніцтва мясцовай ГЭС магутнасцю 33 МВт, трэцяй па ліку з каскаду 4-х станцый на Заходняй Дзвіне.

**Паставы.** На мясцовы верталётны атрад ДААВУ "Авіяцыя" МНС Беларусі ўсклалі задачы санітарнай авіяцыі па дастаўцы ўрачоў і цяжка хворых у экстраных сітуацыях.

**Браслаў.** На мясцовым рыбзаводзе, філіяле Глыбоцкага МКК пачалі выпуск новых кансерваў з хамсы, запусцілі 7 новых аўтаклаваў, аўтамат мыйкі, сушкі гатовай прадукцыі

**Віцебск.** На калегіі абласной пракуратуры аб'явілі падзяку памочніку пракурора абласнога цэнтра Вользе Балаболавай, якая дапамагла затрымаць на вуліцы рабаўніка.

**Полацк.** На УП "Полацкія напіткі і канцэнтраты" пачалі развіваць прамысловы турызм, прынялі першых 8 экскурсій для дзяцей, для дарослых будуць прэзентацыі жывога піва.

**Наваполацк.** Былы старшыня гарсавета дэпутатаў Вячаслаў Дурноў стаў першым намеснікам міністра спорту і турызму Беларусі, хоць у горадзе са спортам шмат праблем.

**Дуброўна.** Суд раёна пакараў 66-гадовую пенсіянерку штрафам звыш 200 рублёў за публічную знявагу на вуліцы 13-гадовай дзяўчынкі нецэнзурнай бруднай лаянкай.

**Глыбокае.** За выхадны ў райцэнтры на пажарах ледзь не згарэлі дзве лазні і гараж у Падсвіллі, потым у вёсцы Шчэрбы раніцай агонь знішчыў гараж і аўто мясцовага жыхара.

**Паставы.** Падчас тушэння пажару позна вечарам у гаражы атрымалі апёкі і патрапілі ў бальніцу муж з жонкай і знаёмы, агонь знішчыў драўляную пабудову і аўтамабіль Honda.

**Віцебск.** У выніку ДТЗ цэнтры горада мікрааўтобус Mercedes выкінула днём на тратуар, машына збіла мужчыну і трох жанчын, двое з іх атрымалі сур'ёзныя траўмы.

**Докшыцы.** Упершыню ў райцэнтры ў СШ № 2 правялі раённыя анлайн-спаборніцтвы па камп'ютарных відэагульнях з удзелам 8 каманд па 5 чалавек у кожнай.

**Браслаў.** З дапамогай пасольства Польшчы ў Беларусі ў райцэнтр даставілі 15 парусных лодак, кацер для трэнера, ангар і неабходны інвентар для стварэння тут яхт-клуба.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

■ Уладзімір Скрабатун

# У Лынтупах адзначылі свята абуджэння мядзведзя

**Масленіца, гэта, перадусім, рускае свята. Канец зімы, прыход вясны і абуджэнне прыроды пасля зімовай спячкі. Натуральна, беларусы пазычылі цяперашняе свята Масленіцы ў сваіх усходніх суседзяў. Даўней на Беларусі святкавалі Камаедзіцу, свята абуджэння мядзведзя.**

Першае на Беларусі свята Камаедзіцы адбылося ў мінулую нядзелю ў мястэчку Лынтупы, што на Пастаўшчыне.

Камаедзіца – забытае беларускае народнае свята, звязанае з сустрэчай вясны. Свята даўней адзначалі 24 сакавіка (6 красавіка) напярэдадні Звеставання і прысвячалі абуджэнню мядзведзя.

Адзінай крыніцай, якая сведчыць пра гэта свята, з'яўляецца артыкул святара Сімяёна Нячаева за 1874 год, часткова перадрукаваны этнографам П. В. Шэйнам і таму стаўшым папулярным. Нячаеў назіраў Камаедзіцу ў сяле Бягомль Барысаўскага павета Мінскай губерні.

**"У гэты дзень падрыхтоўваюцца адмысловыя стравы, менавіта: на першую страву падрыхтоўваецца сушоны рэпнік у знак таго, што мядзведзь харчуецца пераважна раслiннаю ежаю, травой; на другую страву падаецца аўсяны кісель, таму што мядзведзь любіць авёс; трэцяя страва складаецца з гарохавых камоў, з-за чаго і самы дзень атрымаў назву "камаедзіца". Пасля абеду ўсе – старыя і малыя – кладуцца, не спаць, а штохвілінна самым павольным спосабам перакочваюцца з боку на бок, як мага імкнучыся прылаўчыцца да паварочвання мядзведзя".**

Лічыцца, што на наступны дзень "мядзведзь устае". У Беларусі казалі: *"На Авечніцу мядзведзь кладзецца ў бярлог і пачынае смактаць лапу, на Грамніцы пераварочваецца і смокча іншую лапу, а на Звеставане – выходзіць з бярлога"*.

Б. А. Рыбакоў, даследчык славянскай культуры, у сваіх даследаваннях адзначаў, што назва "камаедзіца" выходзіць з таго ж індаеўрапейскага кораня, што і грэцкае слова – *"камедыя"*. Само свята Рыбакоў выводзіў з часоў каменнага веку і звязваўся з паляўнічым культам мядзведзя.

Па меркаванні культурантраполага, філолага, гісторыка навукі Льва Клейна, назва свята – гэта *"позняе запазычанне з латынізаванай польскай культуры, таму яго і няма ўсходней, у рускіх"*. Назва сапраўды можа быць звязана з грэцкай камедыяй, але не як старажытны сваяк, а як запазычанне ў беларускую мову з грэцкай праз лацінскі пасярэднік.

Каб растлумачыць гэтую назву, з'явіўся звычай есці гарохавыя камы, а паколькі Камаедзіцы супадалі з першым выганам скаціны, ражаныя ("дурні маляваныя") сталі маляваць мядзведзя – "скоцкага бога" у славянскіх уяўленнях. Аднак чамусьці Клейн, у пацвярджэнне сваёй версіі, так і не прывёў польскага аналага свята.

Ідэя правядзення першага на Беларусі свята Камаедзіцы ў Лынтупах належыць Міхасю Гілю, краязнаўцу і грамадскаму актывісту з Паставаў. Лынтупы – радзіма яго жонкі Лілі.

*– Мая дачка Алеся працуе ў Аддзеле спорту і турызму Пастаўскага райвыканкама,*– кажа Міхась Гіль. *– Скончыла ў Польшчы ўніверсітэт, мае дыплом па спецыяльнасці – "турызм". Яна сказала, што, фактычна, да кожнага больш-менш значнага паселішча даведзена ўказанне – яно мусіць мець сваё свята! Я прапанаваў мясцоваму савету ў Лынтупах адрадзіць свята Камаедзіцы. Бо Масленіцу святкуюць па ўсёй Беларусі, ва ўсіх райцэнтрах і мястэчках. Улады дапамагаюць з масоўкай. А вось Камаедзіцу – нідзе! Мясцовы савет пагадзіўся. З большага і сцэнар свята мой. Бо, папросту, яго няма адкуль узяць. Яно мала апісана ў краязнаўчай літаратуры. Ёсць сведчанні, што Камаедзіцу святкавалі не толькі ў Бягомлі, а нават і на Гомельшчыне.*



**Пабіванне мядзведзя падушкамі, каб прачнуўся!** *Фота Ул. Скрабатуна.*

Мясцовы савет падтрымаў мяне. Дапамог з арганізацыяй мерапрыемства, выдзеліў мастацкую самадзейнасць, сродкі на прызы для пераможцаў розных конкурсаў.

Камаедзіца праводзілася на фоне разлеглага парку колішняга маёнтка Бішэўскіх. У парку рэстаўруецца палац, які да нядаўняга часу стаяў у руінах. Самой жа сцэнічнай пляцоўкай была абраная тэрыторыя ля будынка колішняй панскай афіцыны, помніка архітэктуры класіцызму.

Натуральна, што на свята, якое арганізавана на грамадскіх пачатках, не так ужо і лёгка сабраць народ. Аднак хоць гэтае свята і не раскручанае так, як Масленіца, усё ж, у першы раз, сабралася досыць багата народу – больш за сто чалавек.

Свята складалася, можна так сказаць, з дзвюх частак. Прэзентацыя кулінарных вырабаў мясцовых гаспадынь – "Лынтупскія прысмакі". Прысутныя маглі падыходзіць і бясплатна частавацца, нават добра паесці. Натуральна, былі прыгатаваныя розныя напоі, перадусім – кісель! Бо лічылася, што мядзведзь любіў аўсяны кісель. Шмат хто прынёс бліны, як мучныя, так і бульбяныя з мясам. Шмат рознага печыва: пірагі, пончыкі, хрусты, піражкі з розным начыннем! А спадарства Гілёў прывезла з Паставаў ці не пяць кардонных скрынак з розным пячэннем. Пеклі ўдвух. Пончыкі ж былі прыгатаваныя, як даўней – на свіным тлушчы, а не на алеі. Напрыканцы Камаедзіцы журы падвяло вынікі конкурсу кулінараў і ўганаравала каштоўнымі падарункамі пераможцаў.

Іншую частку Камаедзіцы склалі розныя спаборніцтвы і забавы: якая пара найхутчэй перапілуе бервяно, якая каманда перацягне на сваю карысць канат, пабіванне "мядзведзя" падушкай на адпілаваных раней калодках: зваліўся з калодкі – прайграў, пераможцу – падарунак.

Мясцовыя артысты прадэманстравалі добры канцэрт на зімовую тэматыку.

Дзятве, тым часам, спадабалася катанне на коннай фурманцы па вуліцах мястэчка.

Ці сталася Камаедзіца ў Лынтупах "першым блінам комам"? Пазбегну крытычных заўваг, бо праводзілася яна, перадусім, на грамадскіх пачатках.

Галоўнае, што свята адбылося! Калі Камаедзіца прыжывецца ў Лынтупах, то сцэнар яе правядзення можна ўдасканальваць з году ў год.

Можна пажадаць Лынтупам, каб іх Камаедзіца стала некалі адным з аб'ектаў падзейнага турызму на Беларусі, як Вішнёвы фестываль у Глыбокім, ці Яблычны Спас у Малых Алашках (Шаркоўшчынскі раён).



**Частаванне лынтупскімі прысмакамі.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Спаборніцтва! Хто хутчэй перапілуе бервяно! Найхутчэй, на дзіва, перапілавала пара з удзелам жанчыны!** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Лынтупскія дзяўчаты. На дальнім плане – старадаўні парк Бішэўскіх.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Фадзей Шымуковіч,** *педагог, пенсіянер, г. Дзісна*

# Ад чаго залежыць наш узровень жыцця?

**“ Жыццё людзей залежыць не ад таго, як яны працуюць, а ад таго, як імі кіруюць”.**

**Канстанцін Пятроў**, *генерал-маёр касмічных войскаў, акадэмік Міжнароднай акадэміі інфарматызацыі пры ААН, прэзідэнт Акадэміі кіравання, кандыдат тэхнічных навук, заснавальнік Канцэптуальнай партыі “Единение” (КПЕ)”.*

Не буду хітрыць, а прапаную слова прафесіяналу Канстанціну Пятрову. Вось яго разважанне: “Вызначальным у паводзінах чалавека, у прыняцці рашэнняў, у тым ліку кіраўніцкіх, з’яўляецца не сума ведаў, якія ён атрымаў, а той псіхалагічны склад, якім ён валодае. Адсюль вынік: праца дзеліцца не на разумовую і фізічную, як нас вучылі, а на прадукцыйную і кіраўніцкую. Ці ж цясляр, які ставіць зруб, не думае галавой? Канечне, думае. Таму першапачатковая раздзяленне працы на фізічную і разумовую. Мяжа праходзіць паміж працай кіраўніцай і прадукцыйнай. Таму жыццё людзей залежыць не ад таго, як яны працуюць, а ад таго, як імі кіруюць.

Будзьце вы на сваім працоўным месцы хоць ля станка, хоць настаўнікам у школе, хоць урачом у бальніцы, хоць пісьменнікам (а праца пісьменніка – гэта інфармацыйны прадукт), у вас усё роўна будзе праца прадукцыйная. А кіраўнікі робяць зборку ўсіх галін дзейнасці вытворчасці. І калі псіхіка кіраўнікоў не чалавечая, а антычалавечая, то такія амаральныя кіраўнікі кідаюць краіну, мільёны людзей, у беднасць, у трушчобы.

Чалавек не нараджаецца першапачаткова злачынцам. Злачынцам яго робіць асяроддзе і культура, у якой ён жыве. Паглядзіце на ўсе нашы фільмы па тэлебачанні. Менавіта яны фарміруюць такія дрэнныя адносіны да нармальнай сумленнай працы і выхоўваюць у людзей прагу нажывы, імкненне абагаціцца несумленным шляхам. Атрымоўваецца, з пункту гледжання тэорыі кіравання, уся культура кіруе намі і фарміруе з людзей недалюдкаў, п’яніц, наркаманаў, злачынцаў і г.д. А культура таксама самакіруемая. І яе робяць не рабочыя, а кіраўнікі, міністры і іншыя. А ў цэлым культуру фарміруе мафія, глабалізатары. Яны і ўкараняюць ідэалы жыцця.”

Прабач, дарагі чытач, што стаміў такой доўгай цытатай. Але ці скажаш лепш? Думаю, і Канстанцін Пятроў на мяне не пакрыўдзіцца, не будзе вініць мяне ў плагіяце, хоць я з ім згодзен.

Але пярэйдзем да самога жыцця. У 1959 годзе пасля дэмабілізацыі давялося працаваць брыгадзірам у родных мясцінах. Як жа людзі працавалі ў калгасе! Усе работы выконвалі ўручную, якасна і своечасова. Нічога не зблоцілася, не пайшло пад снег. А як жылі гэтыя працаўнікі? Не зграшу, калі скажу, што ўпрогаладзь. Асноўны прадукт – бульба. Хлеба ніколі не было ўдосталь, а ў некаторых нават не хапала. А адкуль мог быць дастатак у сям’і, калі ў канцы года на працадзень выйшла 10 капеек, кошт карабка запалак. Для параўнання, 0,5л водкі каштавала 22 рублі. Што такое працадзень? Гэта – мярыла працы таго часу. Уручную скасіць 30 сотак натуральнай травы – 1,5 працадня, зжаць 5 сотак жыта – 1,2 працадня. Ці была мая віна як кіраўніка? Я самастойна нічога не мог вырашыць. Мае абавязкі - арганізаваць працу і весці індывідуальны ўлік. Мая месячная зарплата 75 руб. і 36 працадзён рабіла мяне самога жабраком. Жыць даводзілася з 60 сотак і каровы.

У 1961-1964гг. працаваў намеснікам старшыні калгаса імя Заслонава і сакратаром партарганізацыі гэтай гаспадаркі. Гэта вёска Акунёва Мікалаеўскага сельсавета. У 1962 годзе, ды і раней, у моду ўваходзіла ліквідаванне траваполля, замена яго зерневымі, а галоўнае, кукурузай. У маі ў калгасе бязвыезна сядзеў інструктар РККПБ, нехта адстаўнік Мазураў, пакуль мы не перааралі 20 га выдатнай канюшыны і гэту плошчу засеялі кукурузай. Вынік: на зімоўку пайшлі і без кукурузнага сіласу, і без сена з канюшыны. Натуральна, без малака. А вясной кароў пасля ацёла падвешвалі на вяроўках. Калгаснікі па старой завядзёнцы працавалі выдатна, а жылі вельмі бедна.

Мне даводзілася наведваць у час семінараў калгас “Парыжскай камуны”, якім кіраваў Майдзін Іосіф Зіноўевіч, кавалер некалькіх вышэйшых ордэнаў, а галоўным аграномам Цвяценка Надзея Данілаўна, таксама кавалер вышэйшых урадавых узнагарод. Ужо тады, у 60-я гады, калі кароў уручную даілі ў ацынкаваныя вёдры, гаспадарка трымала па 400 і больш кароў з самымі высокімі надоямі ў раёне. Гаспадарка вырошчвала лепшы лён у раёне. Мела вольныя грошы на банкаўскіх рахунках. Сёння ў гаспадарцы, яна стала “Пад’ельцамі”, дзе пабудаваны тыпавы комплекс для БРЖ, сутачныя надоі на карову 10 літраў. Калі ж верне гаспадарка крэдыты на будаўніцтва комплексу, і ці верне іх наогул?




У пачатку XXI стагоддзя гаспадарку “Туркова” ўзначаліў малады, перспектыўны аграном Сташкевіч Віктар Івanавіч. Спачатку людзі аднесліся з недаверам, маўляў, “хлапчук”, калгас не пацягне. А ён пацягнуў, ды так пацягнуў, што вывеў гаспадарку ў перадавыя. І сёння надоі на карову ў “Туркава” 13л, у той час, як у “Язна” – 3,6л, “Ноўгароды” – 3,3л. У чым прычына такой разбежкі? І не толькі сёння, учора, а гадамі. Адпаведна і зарплата за студзень-верасень у “Туркаве” – 491 рубель, а ў “Язна” – 221 рубель. Сапраўды, як намі кіруюць, так мы і жывем. І гэта справядліва на любым узроўні.

# У школах і садках Мінска масава адкрываюцца беларускамоўныя класы

**У сталічных школах масава ствараюць беларускамоўныя класы, а ў дзіцячых садках — беларускамоўныя групы.**

«Плануецца адкрыць першыя класы з беларускай мовай навучання ў сярэдніх школах № 56, 96, 128, 151, 179, 199. У 179-й яшчэ і пяты клас. Таксама мяркуецца стварыць беларускамоўныя групы ў дзіцячых садках № 100, 205, 332, 384, 399», — паведаміла агенцтву «Мінск-Навіны» начальнік упраўлення адукацыі, спорту і турызму адміністрацыі Фрунзенскага раёна Ірына Чарняўская.



У цяперашні час навучанне дзяцей на беларускай мове ў Фрунзенскім раёне вядзецца толькі ў гімназіі № 4, яслях-садку № 534 і ў адной групе ў дзіцячым садзе № 565.

Такім чынам, у Фрунзенскім раёне будзе сем садкоў з беларускай мовай замест двух ранейшых, а замест адной гімназіі — сем школ і гімназій. Усяго ж у раёне 45 школ і гімназій, а таксама 70 садкоў.

* * *

Што датычыцца іншых раёнаў, прадстаўнікі ўпраўлення адукацыі, спорту і турызму адміністрацый Маскоўскага, Першамайскага, Савецкага, Цэнтральнага і Ленінскага раёнаў Мінска адказалі «Нашай Ніве», што на дадзены момант канкрэтнай інфармацыі наконт новых беларускамоўных класаў і груп у іх школах і дзіцячых садках няма, бо фінальная камплектаванне навучэнцаў адбудзецца толькі ў канцы красавіка.

*Паводле НН.*

**У бюджэт Віцебскай вобласці паступіла каля Br1,5 млн ад платнікаў збору на фінансаванне дзяржрасходаў за 2015 год, паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах Беларусі па Віцебскай вобласці.**

# У бюджэт Віцебскай вобласці ад “дармаедаў” паступіла каля Br1,5 млн збору па дэкрэце №3

*“На сённяшні дзень паведамленні на выплату збору накіраваны амаль 61,4 тыс. грамадзянаў. Унеслі аплату крыху больш за 5 тыс. чалавек, у бюджэт паступіла каля Br1,5 млн”,* – паведаміў намеснік начальніка кіравання – начальнік аддзела падаткаабкладання фізічных асоб інспекцыі МНС па Віцебскай вобласці Аляксандр Касцюкевіч.




Абноўленай інфармацыі адносна вызваленых ад выплаты збору грамадзян і тых, чые паведамленні ануляваны, пакуль няма. Камісіі пры мясцовых органах улады працягваюць разглядаць заявы грамадзян з просьбамі вызваліць іх ад выплаты збору з-за цяжкай жыццёвай сітуацыі. Па дадзеных на 13 лютага, амаль 140 чалавек атрымалі дадатны адказ (пра поўнае ці частковае вызваленне).

На 13 лютага амаль 13,37 тыс. чалавек звярнуліся ў падатковую інспекцыю і прадставілі пацверджаныя дадзеныя пра адсутнасць абавязку па выплаце. Амаль з 10,86 тыс. разгледжаных заяў у 95% выпадкаў прымаліся рашэнні пра ануляванне паведамлення. *“Падставай у палове выпадкаў стала тое, што грамадзяне пацвердзілі сваё знаходжанне за мяжой у 2015 годзе. Яшчэ 23% ануляваных паведамленняў прыйшлося на бацькоў, якія выхоўваюць дзяцей да 7 гадоў”,* – дадаў Аляксандр Касцюкевіч.

Грамадзянін мае права прадставіць у падатковы орган тлумачэнні і дакументы, якія сведчаць пра адсутнасць абавязку па выплаце збору, на працягу 30 каляндарных дзён з моманту атрымання паведамлення. Калі тэрмін прапушчаны па важлівых прычынах, тоён падаўжаецца яшчэ на 30 дзён на падставе заявы грамадзяніна. Тэрмін выплаты збору на фінансаванне дзяржрасходаў за 2015 год мінае 20 лютага.

*Паводле Кацярына Князева - БелТА*

Уладзімір Скрабатун

# А. Протас: Улічваючы Ваш 80-гадовы ўзрост, раблю, пакуль, папярэджанне!

**З 17 па 19 лютага па ўсёй тэрыторыі краіны супрацоўнікамі Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету сумесна з іншымі прыродаахоўнымі і праваахоўнымі органамі, прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі былі праведзены мерапрыемствы па адпрацоўцы вадаёмаў, з мэтай спынення забруджвання побытавым смеццем лядовага пакрыцця і прыбярэжных палос вадаёмаў.**

Ад нашай газеты ўдзел у рэйдзе інспекцыі браў Леанід Юрык, фатограф і відэааператар. Яго фільм пад назваю ***"Адзін дзень з інспекцыяй па ахове жывёльнага і расліннага свету"*** ужо можна паглядзець на *youtube.com* альбо ў сацыяльных сетках.

Трэба адзначыць, што з кожным годам узрастае адказнасць грамадзянаў за захаванне нашай прыроды ў належным стане. Стала значна менш выкідаў смецця на лядовае покрыва: недакуркаў, паперы, пластыкавых і шкляных бутэлек.

Аднак ёсць яшчэ і не мала грамадзянаў, якія жывуць, нібыта, у глухмені, удалечыні ад бойкіх дарог, і ўпэўненыя, што да іх, якраз, ніколі не завітае Дзяржаўная інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету. Наіўнае меркаванне! Завітае, яшчэ і ўчастковага міліцыянта запросіць.

У вёсцы Бычкова, што ляжыць на ўзбярэжжы прыгожай рэчкі Беразвіцы, мясцовы жыхар, вельмі паважанага ўзросту, зліваў бытавыя памыі на стромы бераг ракі. За колькі зімовых месяцаў нарасло слаямі багата бруду. Непрыемнае відовішча. Пры вясновай адлізе – усё гэта сцячэ з берага ў раку! Вельмі сур'ёзнае забруджванне.

*– За гэта – вельмі вялікі штраф!*– кажа парушальніку начальнік інспекцыі А. Протас. – *Улічваючы Ваш паважаны ўзрост, на першы раз – абыдземся папярэджаннем! Выкапайце воддаль яму, прыбярыце бруд і смецце, закапайце. Праз месяц прыеду, праверу!*

– Буду прыбіраць!– запэўніў пенсіянер.

Іншы жыхар займаўся незаконнай нарыхтоўкай дроў. Ссякаў сухастой на беразе ракі.

– Штраф плаціць няма чым, тры месяцы на бальнічным сяджу!– жаліцца жыхар.



**Фенаменальна! Сярод рыбакоў – нямала жанчынаў! Знійжак на жаноцкасць – няма! Атрымай і прачытай памятку паводзінаў падчас знаходжання на прыродзе.** *Фота Леаніда Юрыка.*



**Улічваючы Ваш 80-гадовы ўзрост, раблю папярэджанне! Праз месяц прыеду, праверу, ці прыбралі бераг ракі ад свайго смецця! Інакш будзе вялікі штраф!** *Фота Леаніда Юрыка.*

*– Вы мусілі ўзгадніць высечку з сельсаветам!*

– У панядзелак паеду і ўзгадню, і сукі прыбяру.

Пасля Бычкова наведалі глыбоцкія азёры. На Мушкаце, відавочна, парадак! Патрапіла толькі адна ўмёрзшая ў лёд піўная бутэлька.

Рыбакоў знаходзілася не так ужо і мала. Была праведзеная з імі гутарка. Аднаму рыбалову зробленая заўвага – не падпісаныя жэрліцы з указаннем прозвішча. Рыбак паабяцаў выправіць недахоп. Усім рыбакам былі раздадзеныя памяткі.

Пасля Мушката рэйдавая група накіравалася на самы значны вадаём горада – возера Вялікае.

На возеры адбыліся сустрэчы з рыбакамі, цёплыя гутаркі. Што, дзе і як клюе? Сам Аляксей Віктаравіч – захоплены рыбалкай, а па сужбовых абавязках наведвае яшчэ і шматлікія вадаёмы, то было што абмяркоўваць, а таксама была магчымасць падзяліцца сваім досведам.

На возеры Кагальным ля старых лунак было нямала дробнага смецця, напрыклад, недакуркаў. Рыбакі, што знаходзіліся на лёдзе, паабяцалі – хоць не нашае смецце, але – прыбяром і яго.

На гэтым рэйд мог бы і скончыцца, але паступіў сігнал: па дарозе на Прыперна – незаконная рубка дрэў!

– Чамусьці, некаму адназу – можна секчы, а ўсім астатнім – нельга! – скардзіўся мясцовы жыхар. Адразу накіраваліся на ўказаны адрас! Па прыездзе ўбачылі лесапавал – гонкія бярозы і алешыны ляжаць долу, побач трактар з прычэпам.

Як сталася, гэты нарыхтоўшчык дроў – даўно ў полі зроку інспекцыі. Неадаразова караўся рублём! Але, так і не зрабіў высноваў, зноў будуць пратакол, суд, штраф!



**Адны толькі штрафы сітуацыі з забруджваннем нашых лясоў і вадаёмаў не выправяць! А вось сяброўскія гутаркі, тлумачэнні абавязкова займеюць плён. Нават віншаванні ад інспекцыі – за добры ўлоў, калі ён, натуральна, без парушэння закону. А сам Аляксей Протас, начальнік інспекцыі, зацяты рыбак, можа каго заўгодна "пералавіць" на спрэчку.** *Фота Леаніда Юрыка.*



**Незаконная высечка! Урон прыродзе можна спраўдзіць і рулеткай.** *Фота Леаніда Юрыка.*

А.І.Гігола,
*начальнік аддзел аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.*

# Штогод у краіне ад рук блізкіх гінуць каля 120 чалавек

Прафілактыка асацыяльных паводзін грамадзян у сферы сямейна-побытавых адносін, п'янства на сённяшні дзень адно з асноўных кірункаў дзейнасці органаў унутраных спраў. Крымінальным і адміністрацыйным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь прадугледжана шэраг артыкулаў кодэксаў, дзеянне якіх у асобных выпадках распаўсюджваецца на грамадзян, якія здзяйсняюць злачынствы ў побыце.

Да правапарушальніка ў сувязі з гвалтам у сям'і можа быць ужыта ахоўнае прадпісанне, якім ускладаюцца наступныя забароны:

- мець зносіны з пацярпелым;
- прадпрымаць спробы высвятляць месца знаходжання пацярпелага;
- наведваць месца знаходжання пацярпелага;
- распараджацца агульнай сумеснай уласнасцю,

а таксама абавязак часова пакінуць (ад 3 да 30 сутак) агульнае з пацярпелым жылое памяшканне.

Штогод у краіне ад рук блізкіх гінуць каля 120 чалавек, больш 250 атрымліваюць цяжкія целавыя пашкоджанні. Своечасовы зварот за дапамогай спыніць гвалт, захавае Вам жыццё. Бясплатную ананімную кансультацыю па пытаннях гвалту ў сям'і Вы можаце атрымаць, патэлефанаваўшы на агульнанацыянальную гарачую лінію для пацярпелых ад хатняга гвалту (тэл. 8-801 -100-8-801).

За 2016 г. у Глыбоцкім раёне здзейснена ў сферы сямейна-побытавых адносін 9 злачынстваў, з іх 7 прэвентыўнай скіраванасці, 1 прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў.

**З 20 па 28 лютага 2017г. на тэрыторыі раёна** праводзяцца мерапрыемствы па папярэджанні злачынстваў і правапарушэнняў у сферы сямейна-побытавых адносін **"БЫТ"**, калі Вам не абыякавыя здароўе і лёсы вашых блізкіх, на Вашых вачах адбываюцца п'яныя дэбошы са збіваннямі і пагрозамі, або Вы самі сталі ахвярай гвалту і беззаконня і па ўсіх гэтых выпадках. Вы можаце ананімна звярнуцца ў аддзел унутраных спраў Глыбоцкага райвыканкама, на кругласутачную "гарачую лінію", на тэлефоны: 2-27-02, МТС 597-21-74, Велком 314-89-02 ці 102.

## МНС інфармуе

**на 21.02.2017 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 138;;
Гібель людзей – 25, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 10;
Гібель людзей – 0, з іх дзяцей няма

***

За **2016 год** у раёне адбылося **20** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2015 год** у раёне адбылося **36** пажараў, на якіх загінулі **3** чалавекі.

# Даходы беларусаў за год упалі на 7,3 працэнта



■ Радыё Свабода

**Рэальныя наяўныя грашовыя даходы насельніцтва Беларусі за 2016 год знізіліся на 7,3% да ўзроўню 2015 году, паведаміў Белстат.**

У агульным аб'ёме грашовых даходаў аплата працы займае 61,9%, даходы ад прадпрымальніцкай ды іншай дзейнасці, якая прыносіць даход, — 8,4%, трансфэрты насельніцтву (пенсіі, дапамогі, стыпэндыі ды іншыя) — 23,9%, даходы ад уласнасці ды іншыя даходы — 5,8%.

Даходы насельніцтва памяншаюцца з 2015 году. У студзені 2016-га зніжэнне склала 5,4% да студзеня 2015 году, у студзені-лютым да аналагічнага перыяду папярэдняга году — 6,4%, студзені-сакавіку — 6,5%, студзені-красавіку — 6,8%, студзені-траўні, студзені-чэрвені і студзені-ліпені — 7%, студзені-жніўні — 7,1%, студзені-верасні — 7,2%, студзені-кастрычніку — 7,3%, студзені-лістападзе — 7,5%.

Мінэканомікі раней чакала, што рэальныя наяўныя грашовыя даходы насельніцтва ў першым квартале 2016 году знізяцца на 1,5% да адпаведнага перыяду 2015 году, у першым паўгоддзі будуць на леташнім узроўні, па выніках дзевяці месяцаў вырастуць на 0,1%, па выніках году — на 0,5%.

Праграмай сацыяльна-эканамічнага развіцця на 2016–2020 гады закладзены рост рэальных наяўных грашовых даходаў насельніцтва ў 2020 годзе ў адносінах да 2015 году на 9,5-11,6%.

У ходзе «Вялікай размовы з прэзыдэнтам» 3 лютага Аляксандр Лукашэнка зноў заявіў, што ў 2017 годзе сярэдні заробак «кроў з носу» павінен вырасці да 500 даляраў ЗША.

«500, як я думаю, не магу стоадсоткава сцвярджаць, што я маю рацыю, але 500 даляраў сярэдні заробак у краіне — гэта тое, што дзяржава павінна дапамагчы зарабіць чалавеку, для таго, каб ён хоць трохі мог жыць у той сістэме сацыяльна-эканамічнай, якую мы з вамі стварылі. Усё астатняе не забараняецца — вітаецца. Тысяча, дзве тысячы, хто колькі заробіць, мы жывём у рынкавай эканоміцы, падабаецца яна мне ці не. Мне — не вельмі. Але, калі мы праводзім апытанні, амаль дз ве трацiны насельніцтва — рынак, рынкавая эканоміка, свабода ды іншае. Калі ласка, рынкавая эканоміка і свабода, зарабляй», — сказаў Лукашэнка.

Ён падкрэсліў, што лічба 500 даляраў названая не спантанна. «Мы гэта ўжо праходзілі. Больш за тое, краіна ў снежні мела 412 даляраў заработнай платы, засталося зусім трохі», — заявіў Лукашэнка, даўшы зразумець, што з ураду будуць звольненыя тыя, хто не падтрымлівае патрабаванне павялічыць зарплату да 500 даляраў.

Камэнтуючы БелаПАН прычыны такога значнага падзення даходаў насельніцтва, кіраўнік Навукова-даследчага цэнтру Мізэса Яраслаў Раманчук назваў скарачэнне інвэстыцый, падзенне канкурэнтаздольнасці беларускай эканомікі і прадукцыйнасьці працы, адток прадпрымальнікаў і іх матэрыяльных актываў, працяг страт беларускіх вытворцаў на замежных рынках. «Трэба прызнаць, што ўзровень даходаў, заяўлены ўладамі, носіць хутчэй палітычны і ідэалягічны характар, але ніяк не быў абумоўлены выразным эканамічным падмуркам. Цяпер ідзе адаптацыя таго, што мы можам зарабляць, да таго, што мы зарабляем на самай справе», — сказаў Раманчук.

Пры гэтым ён лічыць, што неадназовае паўтарэнне Аляксандрам Лукашэнкам задачы для ўраду ў 2017 годзе дасягнуць сярэдняга ўзроўню заробкаў у 500 долараў «зяўляецца ўсяго толькі мантрай». «Гэтая мантра ніякага тэарэтычнага і практычнага разліку не мае. Гэта толькі заявы пра тое, што трэба жыць дружна, багата і з добрым здароўем», — заявіў эканаміст.

# Узрослыя з-за маразоў выдаткі на ацяпленне за беларусаў аплацяць камунальнікі



■ FINANCE.TUT.BY

**У Міністэрстве ЖКГ абяцаюць, што сумы ў жыроўках за студзень, якія вось-вось павінны разнесці па паштовых скрынях, павялічацца толькі за кошт зацверджанага ўжо росту тарыфаў.**

А вось наступствы студзеньскіх маразоў беларусам аплачваць не давядзецца. Пра гэта паведамляе БЕЛТА.

Насельніцтва будзе плаціць за студзеньскае ацяпленне па аб'ёмах, спажыванне ў снежні. Традыцыйна менавіта гэты радок у жыроўках «важыць» больш за ўсё. З пачатку года ацяпленне падаражэла на 17%.

Раней, нагадаем, гарадскія ўлады казалі, што ў гэтым годзе з-за моцных маразоў суму за ацяпленне ў студзені могуць выставіць не цалкам, а даплату ўзяць, да прыкладу, у красавіку, калі тапіць ўжо не будуць.

Аднак у выніку ўлады вырашылі паступіць па-іншаму.

- Нягледзячы на сур'ёзныя халады, якія былі ў студзені, калі тэмпература паветра апускалася да мінус 28 градусаў, беларусы адчуюць падаражэнне паслуг ацяплення толькі за кошт павелічэння тарыфаў, - запэўнілі ў Міністэрстве ЖКГ. - Рост аб'ёмаў спажытай цеплаэнергіі ЖКГ возьме на сябе і пагасіць за кошт зніжэння выдаткаў на працягу года. У выніку беларусы заплацяць менш, чым маглі б заплаціць.

# У Беларусі плануюць вызначыць мінімальныя патрабаванні для адкрыцця і вядзення бізнесу - Навіцкі

■ / Кар. БЕЛТА

**У Беларусі плануюць вызначыць мінімальныя патрабаванні да адкрыцця і вядзення бізнесу. Пра гэта 19 лютага ў эфіры тэлеканала АНТ заявіў намеснік старшыні Савета па развіцці прадпрымальніцтва ў Беларусі Сяргей Навіцкі, паведамляе БЕЛТА.**

Сяргей Навіцкі распавёў, што да канца першага квартала павінен з'явіцца адпаведны нарматыўны прававы акт. «Хутчэй за ўсё, гэта будзе ўказ, які вызначыць правілы гульні, мінімальныя патрабаванні да бізнесу для яго пачатку і працягу», - адзначыў ён. Намеснік старшыні Савета па развіцці прадпрымальніцтва выказаў здагадку, што будуць вызначаны бізнес-мадэлі: напрыклад, для кафэ - 30 пасадачных месцаў, для цырульні - 6. «Гэта значыць на ўзроўні бізнесу будуць вызначаны мінімальныя патрабаванні як да адкрыцця, так і да атрымання дазваленчых дакументаў для пачатку», - растлумачыў Сяргей Навіцкі. Паводле яго слоў, узаемадзеянне бізнесу і кантрольна-наглядных органаў павінна змяніцца. Чакаецца, што на працягу пяці гадоў пасля рэгістрацыі справы да прадпрымальніка не будуць хадзіць праверкі. Жадаючым займацца бізнесам, да прыкладу, будуць атрымліваць у спецыялістаў кансультацыі, як гэта зрабіць правільна з пункту гледжання пажарнай, санітарнай бяспекі. Уладальнік будзе несці адказнасць за тое, што ён робіць. Зрэшты, Сяргей Навіцкі лічыць, што за парушэнні, якія не прынеслі шкоды дзяржаве, грамадзянам, трэба не караць, а выкараністоўваць папярэджанне. Пасля выхаду дакумента павінны адбыцца рэзкія змены, перакананы намеснік старшыні Савета па развіцці прадпрымальніцтва. «Змены будуць імгненнымі, указ адрэгулюе моманты, звязаныя з абмежаваннямі», - перакананы ён.

## Усміхніцеся

Беседуют две охотничьи собаки:

- Вчера идем с хозяином по лесу, вдруг из-за кустов выскакивает медведь! А хозяин, склеротик, патроны дома забыл. Ну, я как брошусь на него, как заору!

- Какая ты смелая! Бросилась на зверя!

- Да на какого зверя?! На хозяина бросилась, обняла его лапами и кричу «Бежим, придурок!»

***

Судья:

— Итак, подсудимый, расскажите нам, почему вы выстрелили в своего товарища по охоте?

Подсудимый:

— Я принял его за косулю.

— А когда вы поняли свою ошибку?

— Когда косуля выстрелила в ответ!

***

Отец строго отчитывает свою дочь:

- Сегодня вечером, когда ты вернулась, часы пробили три раза!

- Да, папа, но я не хотела тебя будить. Они пробили бы семь раз, если бы я их вовремя не остановила.

***

Вчера прыгал с парашютом.

- И что?

- Что, Что... Узнал с какого места выделяется адреналин.

***

Мужик после долгого выматывающего спора с тещей обращается к сыну: — Сынок, принеси-ка бабушке крем для губ. — Который крем? — Такой в тюбике, на нем «Момент» написано.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Детская подвижная игра | Сосуд для питья | Бразильский футболист, чемпион мира | "Ко мне, ..." | | | | | | |
| | | | | | Особый акт главы государства | | Тянуть кота за ... | | Местность в Москве |
| | Один из языков Индии | | Тугоплавкий металл | | | | | | |
| | | | | | Столица Башкирии | | Млекопитающее отряда грызунов | | Единица освещенности |
| | Вид скульптуры | | Спортивная командная игра | | | | | | |
| | | | | | | Автор романа "Доктор Фаустус" | | Адм.-терр. единица в царской России | |
| | Главный католик | | Лестница для штурма | | | | | | |
| | | | | | Бог войны у древних греков | | | | |
| Сорт крупных сладких яблок | | Ткань с рубчиками | | Судьба | Звезда в созвездии Эридан | | Пушной зверек из семейства куниц | | Молочная водка |
| Возможность удачи | | Мужское имя | | | | | | | |
| | | | | Геометрическое тело | | Трава семейства сложноцветных | | Брачное поведение млекопитающих | |
| | Зимняя одежда | | Род ватрушки | | | | | | |
| | | | | | Плоскогорье на Алтае | | | | |
| | Широкая сборчатая верхняя рубаха | | Ведьма в мифах литовцев и латышей | | | | | | |

**Ответы на сканворд № 07**

**По горизонтали:** Франко. Ус. Фес. Асахи. Фест. Залом. Эсперанто. Триал. Карл. Иран. Муха. Тиран. Гид. Азы. Икона. Жакет. Лад. **По вертикали:** Эффе. Растяпа. Рес. Казыр. Оса. Ухо. Символ. Алёна. «Эрмитаж». Си. Елена. Аким. Трихина. Риза. Арык. Угол. Адад. Нит.

## ГАРАСКОП НА НОВЫ ТЫДЗЕНЬ

**АВЕН.** У пачатку тыдня варта некалькі знізіць дзелавую актыўнасць, бо ваша стараннасць слаба адаб'ецца на канчатковым выніку. Лепш падумайце аб маючых адбыцца святах і доўгіх выхадных. Было б добра на гэтым тыдні здзейсніць пакупкі для дома, а таксама заняцца вырашэннем іншых хатніх праблем. Выхадныя могуць апынуцца складанымі і вельмі напружанымі незапланаваныя справы адбяруць шмат часу.

**ЦЯЛЕЦ.** Ваша імкненне пашырыць гарызонты не ілюзорнае, вы зможаце асвоіць нешта новае і карыснае для сябе, павысіць узровень прафесійных ведаў. У першыя дні тыдня будзьце вельмі ўважлівыя, падпісваючы паперы. Пажадана прыслухоўвацца да паступаючай інфармацыі, гэтыя звесткі могуць шмат што змяніць. У выхадныя вас чакаюць новыя ўражанні. Не бойцеся спрачацца з блізкімі людзьмі, у гэтых спрэчках народзіцца ісціна, відавочная абодвум бакам.



**БЛІЗНЯТЫ.** На гэтым тыдні вы апынецеся ў цэнтры яркіх і цікавых падзей. Вашы неардынарныя ідэі, прафесіяналізм і выдатныя арганізатарскія здольнасці будуць ацэнены па вартасці. Прыгатуйцеся, што менавіта вам прыйдзецца вырашаць важныя пытанні, да вашага меркавання прыслухаюцца. Удача будзе спадарожнічаць людзям творчых прафесій. Вас чакаюць падарожжы, прычым не за ваш кошт.

**РАК.** Вазьміце сабе за правіла дакладна планаваць свае справы. Вольны час таксама лепш не пускаць на самацёк. Калі ўжо запісаліся ў спартзалу або на заняткі па беларускай мове, то трэба хадзіць рэгулярна. Першая палова тыдня абяцае вельмі пазітыўныя паказчыкі ў многіх галінах. У другой палове тыдня лепш не прадпрымаць нічога кардынальна новага і тым больш - глабальнага. Кампрамісныя рашэнні будуць добрыя на працы і зусім непрымальныя дома. Доўгія выхадныя пройдуць весела і прыемна.

**ЛЕЎ.** Тыдзень спрыяльны для рашучых і прамалінейных заяў. Вы можаце наладзіць адносіны з начальствам, прывесці ў парадак дакументацыю. У сярэдзіне тыдня ўсе дзверы будуць адчынены для ажыццяўлення вызначаных планаў. Вам неабходна старанна праверыць намеры вашых дзелавых партнёраў, будзьце асцярожныя, так як, пагнаўшыся за выгаднай прапановай, вы можаце трапіць у пастку. Канец тыдня можа стаць для вас часам генеральнай уборкі, паспрабуйце разабрацца ў справах, а таксама вычысціць і вымыць кожны куток свайго жылля.

**ПАННА.** На гэтым тыдні вострыя моманты на працы і ў сям'і згладзяцца, і ўзнікне больш паразумення з навакольным светам. Можаце чакаць прыбытак і выгадныя прапановы. Магчымы ўдалыя перамовы па крэдытных пытаннях, не выключана атрыманне спонсарскай дапамогі ці яшчэ якіх-небудзь выгод. Спрыяльны перыяд для асваення новых турыстычных маршрутаў. У канцы тыдня прыглядзьцеся ўважлівей да навакольных людзей, так як адкрытасць і добрасардэчча могуць вам жа і нашкодзіць.

**ВАГІ.** Надыходзіць спрыяльны час для кар'ернага росту. У пачатку тыдня набярыцеся цярпення, так як калегі па працы і блізкія людзі могуць тузаць вас па ўсякіх дробязях. Бліжэй да выхадных займіцеся планаваннем вечарынкі з сябрамі або невялікага падарожжа з каханым чалавекам. Магчыма, вам нават удасца з'ездзіць на мора.

**СКАРПІЁН.** Тое, што здавалася складанай праблемай, вырашыцца ў вашу карысць, прычым само сабой. Вам можа паступіць цікавая прапанова, не адмаўляйцеся ад яе, яна абяцае адкрыць перад вамі вялікія перспектывы і прынесці прыбытак. На ваш рахунак паступіць вялікая сума. Ваша праца будзе аплочана і адзначана вельмі высока.

**СТРАЛЕЦ.** На гэтым тыдні вам неабходна будзе засяродзіцца на галоўным і не марнаваць сілы на рашэнне другарадных праблем. Зараз зручны час, каб з усёй сур'ёзнасцю задумацца пра будучыню і будзе прынята важнае рашэнне. Пажадана, каб рост вашай актыўнасці і прадпрымальнасці не ператвараўся ў імітацыю бурнай дзейнасці. Вы зможаце ў поўнай меры задзейнічаць усе сувязі, але перш за ўсё папрацаваць давядзецца вам. Да сярэдзіны тыдня пажадана не пачынаць новых спраў.

**КАЗЯРОГ.** Вам неабходна ўмацоўваць свой аўтарытэт і берагчы сваю рэпутацыю. Не варта ва ўсім згаджацца з начальствам або з каханым чалавекам. У вас павінна быць і сваё меркаванне. У сярэдзіне тыдня будзе неабходна разабрацца з незавершанымі папяровымі справамі, не адпраўляйце іх у доўгую скрыню. У другой палове тыдня не спрабуйце нікому навязваць сваё меркаванне. Не забудзьцеся павіншаваць блізкіх людзей са святам. У выхадныя прыйдзецца заняцца назапашанымі праблемамі падрастаючага пакалення.

**ВАДАЛЕЙ.** Тыдзень абяцае быць зусім не сумным, хоць і няпростым. Магчымыя змены ў лепшы бок у адносінах з дзелавымі партнёрамі, а разумны кампраміс падчас перамоваў дазволіць дамагчыся вызначанай мэты. Будзьце асцярожныя пры зносінах з афіцыйнымі асобамі. Не ўсе вашы выказванні прыйдуцца па душы, што можа ўнесці рознагалоссі ў жыццё калектыва і стаць прычынай для непаразуменняў. Канец тыдня - спрыяльны час для пачатку падарожжаў, і ні ў якім разе не пераносьце намечаны адпачынак!

**РЫБЫ.** Найвышэйшую каштоўнасць на гэтым тыдні набудуць ваша бескарыслівасць і чысціня намераў. Вам практычна нічога не атрымаецца зрабіць для сябе, аднак дзеянні альтруісцкага характару будуць мець ашаламляльны поспех. У першыя дні тыдня варта як мага менш трапляцца на вочы начальству, інакш вам дадуць заданне, якое можа перашкодзіць паўнавартаснаму адпачынку ў выходныя. Сярэдзіна тыдня - прыдатны дзень для навядзення парадку, як у справах, так і ў думках.

«Вольнае Глыбокае»
Заснавальнік: Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.
Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб'ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 21. 02 .2017 г. у 20[00]
Наклад 1400 паасобнікаў

Рэдактар: Уладзімір Іванавіч Скрабатун.
Тэлефон/факс: (02156) 5-52-94;
E:mail: vglybokaye@tut.by
Адрас для дopісаў: 211800, г. Глыбокае, п/с №3

Замова 90

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор фактаў. Спасылкі на «Вольнае Глыбокае» абавязковыя.
Газета набраная і зверстаная на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае».
Надрукаваная ў друкарні ТДА «Знамение», г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14. Ліц. ЛП №02330/85 ад 23.01.2014
Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, пак. 1, г. Глыбокае